# БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКААПСАЮЗУ

27 красавіка 1932 г.
№ 6—7

Рэдакцыя і кантора
Менск, Савецкая 57.
Тэл. 6—50.

Умовы падпіскі:
На год—12 руб.
На 6 м.— 6 руб.


## Парадак ужываньня новага дыфпаю

Зацьверджана прэзыдыумам праўленьня Белкаапсаюзу
3-га красавіка 1932 г.

### аб парадку ўвядзеньня новага дыфпаю па гораду і сялу

## ІНСТРУКЦЫЯ

1. У мэтах забесьпячэньня спажывецкай каапэрацыі сваімі уласнымі зваротнымі сродкамі, вызваленьня з тавараз вароту дзяржаўных сродкаў, забесьпячэньня пляну капітальнага будаўніцтва выкананьня пляну па брыгадных гаспадарках спаж. сыстэмы, уводзіцца дыфпай наступных груп і разьмераў.

| Група пайшчыкаў | №№ груп | Адзнакі, па якіх пайшчыкі падзяляюцца на групы | Разьмер. абавязковага паю | Тэрмін пагашэн. уноў паступіўш. пайшч. у мес. | Тэрмін папаўн. паю стар. пайшч. у мес. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| Разьмер паю, які вызначаецца ад месячнага заработку, ці прыбытку працуючых па найму (рабочыя і служачыя), а таксама сяброў гарадзкіх і сельскіх прамысловых таварыств, упаходзячых у сыстэму прамыслов. каапэрац. і літэратуры, мастакі і інш. працоўнікі мастацтва, працуючыя не па найму. | 1 | Маючыя заработак ад 26 да 50 руб. . . . . . | 22 руб. | 15 | 12 |
| | 2 | „ 51 „ 70 „ . . . . . . | 35 „ | 15 | 10 |
| | 3 | „ 71 „ 90 „ . . . . . . | 41 „ | 14 | 8 |
| | 4 | „ 91 „ 100 „ . . . . . . | 48 „ | 13 | 8 |
| | 5 | „ 101 „ 120 „ . . . . . . | 68 „ | 12 | 8 |
| | 6 | „ 121 „ 150 „ . . . . . . | 78 „ | 12 | 8 |
| | 7 | „ 151 „ 200 „ . . . . . . | 104 „ | 10 | 7 |
| | 8 | „ 201 „ 250 „ . . . . . . | 124 „ | 9 | 7 |
| | 9 | „ 251 „ 300 „ . . . . . . | 150 „ | 9 | 6 |
| | 10 | „ 301 „ 350 „ . . . . . . | 180 „ | 8 | 5 |
| | 11 | звыш 351 „ . . . . . . | 210 „ | 7 | 5 |
| Разьмер паю, які вызначаецца па даходнасьці сельскай гаспадаркі (індыв. сэкт.) | 12 | Аслабанёныя ад с.-г. падатку і батракі . . . . . . . . . . | 20 руб. | 15 | 12 |
| | 13 | Плацяшчыя падатак з даход. да 250 руб. у год . . . . | 50 „ | 13 | 9 |
| | 14 | ад 251 „ 350 „ „ . . . . | 70 „ | 13 | 9 |
| | 15 | „ 351 „ 500 „ „ . . . . | 105 „ | 12 | 8 |
| | 16 | „ 501 „ 700 „ „ . . . . | 150 „ | 12 | 7 |
| | 17 | „ 701 „ 1000 „ „ . . . . | 215 „ | 8 | 6 |
| | 18 | звыш 1000 „ . . . . | 270 „ | 7 | 5 |
| Разьмер паю для главы сям'і калгасьнікаў с.-г. арцелі і прамкалгасаў. | 19 | Бядьнякі і батракі калгасьнікі . . . | 5 руб. | 15 | 12 |
| | 20 | Главы сям'і, маючыя даход до 250 руб. у год . . . . | 33 „ | 13 | 9 |
| | 21 | ад 251 „ 350 „ „ . . . . | 45 „ | 13 | 8 |
| | 22 | „ 351 „ 500 „ „ . . . . | 65 „ | 12 | 7 |
| | 23 | „ 501 „ 700 „ „ . . . . | 90 „ | 12 | 7 |
| | 24 | „ 701 „ 1000 „ „ . . . . | 116 „ | 8 | 6 |
| | 25 | звыш 1000 „ „ . . . . | 145 „ | 6 | 5 |

| Групы пайшчыкаў | №№ груп | Адзнакі па якіх пайшчыкі падзяляюцца на групы | Разьм. абавязковага паю | Тэрмін пагашэн. уноў паступіўш. пайшч. у мес. | Тэрмін папаўн. паю стар. пайшч. у мес. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| Разьмер паю для членаў сем'яў калгасьнікаў с.-г. арцелі і прам. калгасаў | 26 | Бедннякі і батракі калгасьнікі . . . | 5 руб. | 15 | 12 |
| | 27 | Сябр сям'і з даходнасьцю да 50 руб. у год . . . . | 9 „ | 13 | 10 |
| | 28 | ад 51 „ 75 „ „ . . . . | 11 „ | 13 | 10 |
| | 29 | „ 76 „ 100 „ „ . . . . | 13 „ | 12 | 9 |
| | 30 | „ 101 „ 150 „ „ . . . . | 15 „ | 12 | 9 |
| | 31 | „ 151 „ 200 „ „ . . . . | 18 „ | 10 | 8 |
| | 32 | „ 201 „ 250 „ „ . . . . | 21 „ | 9 | 8 |
| | 33 | „ 251 „ 350 „ „ . . . . | 25 „ | 8 | 7 |
| | 34 | звыш 351 „ „ . . . . | 35 „ | 8 | 7 |
| Разьмер паю, які вызначаецца для некаапэраваных саматужнікаў, жыхарствуючых у гарадох і асоб слабодных прафэсій (акрамя літэратараў, мастакоў і інш. працаўнікоў мастацтва) як у гарадох, тяк і ў сельск. мясцов. | 35 | Пры гадовом даходзе да 500 руб. . . . . . . | 30 руб. | 12 | 6 |
| | 36 | ад 501 „ 600 „ . . . . . . | 35 „ | 12 | 6 |
| | 37 | „ 601 „ 900 „ . . . . . . | 50 „ | 11 | 6 |
| | 38 | „ 901 „ 1200 „ . . . . . . | 70 „ | 11 | 6 |
| | 39 | „ 1201 „ 1800 „ . . . . . . | 105 „ | 10 | 5 |
| | 40 | „ 1801 „ 2400 „ . . . . . . | 160 „ | 10 | 5 |
| | 41 | „ 2401 „ 3000 „ . . . . . . | 210 „ | 10 | 5 |
| | 42 | „ 3001 „ 3600 „ . . . . . . | 250 „ | 9 | 5 |
| | 43 | „ 3601 „ 4200 „ . . . . . . | 300 „ | 9 | 5 |
| | 44 | „ 4201 „ 4800 „ . . . . . . | 350 „ | 8 | 4 |
| | 45 | „ 4801 „ 6000 „ . . . . . . | 400 „ | 8 | 4 |
| | 46 | звыш 6000 „ . . . . . . | 450 „ | 7 | 3 |
| Разьмер паю для сэзоньнікаў | 47 | З месячн. заработкам да 50 руб. . . . . . . | 10 руб. | 4 | — |
| | 48 | ад 51 „ 100 „ . . . . . . | 15 „ | 4 | 2 |
| | 49 | „ 101 „ 150 „ . . . . . . | 21 „ | 3 | 2 |
| | 50 | „ 151 „ 200 „ . . . . . . | 28 „ | 3 | 2 |
| | 51 | звыш 200 „ . . . . . . | 35 „ | 3 | 2 |
| Разьмер паю для сяброў камун. | 52 | . . . . . . . . . . . . | 20 руб. | 10 | 7 |
| Ільготнікі | 53 | Атрымліваючыя пэнсію альбо стыпэндыю да 26 руб., а таксама працуючыя па найму з заработкам да 25 р. | 8 руб. | 8 | 1—3 |
| Утрыманцы пайшчыкаў, разьмер паю якіх вызначаецца ад месячнага заработку, альбо прыбытку, 1-4 асноўнага паю главы сям'і | 54 | Утрыманцы 1 групы . . . . . | 5 р. 50 | 15 | ад 5 месяцаў да 3-х месяцаў |
| | 55 | „ 2 „ . . . . . | 9 „ | 15 | |
| | 56 | „ 3 „ . . . . . | 10 „ | 14 | |
| | 57 | „ 4 „ . . . . . | 12 „ | 13 | |
| | 58 | „ 5 „ . . . . . | 17 „ | 12 | |
| | 59 | „ 6 „ . . . . . | 19 р. 50 | 12 | |
| | 60 | „ 7 „ . . . . . | 26 „ | 10 | |
| | 61 | „ 8 „ . . . . . | 31 „ | 9 | |
| | 62 | „ 9 „ . . . . . | 37 р. 50 | 9 | |
| | 63 | „ 10 „ . . . . . | 45 „ | 8 | |
| | 64 | „ 11 „ . . . . . | 52 р. 50 | 7 | |

| Групы пайшчыкаў | №№ груп | Адзнакі па якіх пайшчыкі падзяляюцца на групы | Разьм. абавязковага паю | Тэрмін пагашэн. ўноў уступ. пайшч. у мес. | Тэрмін папаўн. паю стар. пайшч. у мес. |
|---|---|---|---|---|---|
| Утрыманцы пайшчыкаў, разьмер паю якіх вызначаецца па даходнасьці с.-г. гаспадаркі (па індывідуальнаму сэктару), | 65 | Утрыманцы 12 групы . . . . . | 5 р. | 15 | ад 5 да 3 месяцаў |
| | 66 | „ 13 „ . . . . . | 12 „ 50 | 13 | |
| | 67 | „ 14 „ . . . . . | 17 „ 50 | 13 | |
| | 68 | „ 15 „ . . . . . | 26 „ | 12 | |
| | 69 | „ 16 „ . . . . . | 37 „ 50 | 12 | |
| | 70 | „ 17 „ . . . . . | 54 „ | 8 | |
| | 71 | „ 18 „ . . . . . | 67 „ 50 | 7 | |
| Утрыманцы некаапэраваных саматужнікаў і асоб слабодных прафэсій | 72 | Утрыманцы 35 групы . . . . . | 7 р. 50 | 13 | ад 3-х да 5 месяцаў |
| | 73 | „ 36 „ . . . . . | 9 „ | 13 | |
| | 74 | „ 37 „ . . . . . | 12 „ 50 | 13 | |
| | 75 | „ 38 „ . . . . . | 17 „ 50 | 12 | |
| | 76 | „ 39 „ . . . . . | 26 „ | 12 | |
| | 77 | „ 40 „ . . . . . | 40 „ | 10 | |
| | 78 | „ 41 „ . . . . . | 52 „ 50 | 10 | |
| | 79 | „ 42 „ . . . . . | 62 „ 50 | 9 | 5 мес. |
| | 80 | „ 43 „ . . . . . | 75 „ | 9 | |
| | 81 | „ 44 „ . . . . . | 87 „ 50 | 8 | |
| | 82 | „ 45 „ . . . . . | 100 „ | 8 | |
| | 83 | „ 46 „ . . . . . | 112 „ 50 | 8 | |

Увага 1. Асобы начскладу РСЧА (акрамя малодшага начскладу тэрміновай службы), асобы радавога і начальствуючага складу рабоча-сялянскай міліцыі, ваенізіраванай аховы працаўнікі АДПУ уплачваюць паявыя ўзносы ў тых-жа разьмерах, што і асобы, працуючыя па найму.

Увага 2. Пры вызначэньні паю для асоб начскладу РСЧА прымаюцца пад увагу толькі атрымліваемы імі асноўны аклад пэнсіі (ў тым ліку і начсклад Райваенкаматаў).

2. Працоўнае насельніцтва, якое займаецца гародніцтвам, прадажай малака і г. д. і не адносіцца да груп, абкладаемых сельгаспадаткам, а плаціць толькі рэнту, або прыбытковы падатак—уносіць пай па абкладаемай даходнасьці па стаўках, якія ўстаноўлены для рабочых, павялічаных на 100 проц. Калі, напрыклад, пай для рабочага 48 руб., для данай групы—96, для рабочых 78—для данай групы—156.

Тыя-ж працоўныя памянёных груп, якія аслабанены ад прыбытковага падатку, уносяць пай у 70 руб.

3. Працоўныя, якія ня маюць вызначаныя крыніцы прыбытку (дравасекі, прачкі і г. д.) уносяць пай па абкладаемай прыбытковым падаткам даходнасьці па стаўках паю, які ўстаноўлены для рабочых. Калі гэтыя групы аслабанены ад прыбытковага падатку, дык пай устанаўліваецца ў 35 руб.

4. Сэзонныя рабочыя, якія састаяць сябрамі спажывецкіх таварыстваў на месцы свайго сталага жыхарства, адначасова ўплачваюць пры ўступленьні, на пачатках падвойнага членства па мейсцу сваей сэзоннай працы дыфпай, згодна паказаных груп—47—51.

5. Сябры сям'і пайшчыка, якія ня маюць самастойнага заработку, уплачваюць пай у разьмерах $^1/_4$ паявога ўзносу, устаноўленага ў адпаведнасьці з групамі 1—18 і 35—46 гэтай інструкцыі, для главы сям'і.

6. Для вучашчыхся, атрымліваючых стыпэндыю звыш 25 р. у месяц устанаўліваецца пай аднолькавы з размерам дыфпаю, устаноўленым для рабочых і служачых, выходзячы з разьмеру атрымліваемай стыпэндыі альбо заработку.

7. Для асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, ня маючых права састаяць пайшчыкамі каапэрацыі ўстанаўліваюцца асобыя мэтавыя ўзносы ў разьмеры сярэдне-месячнага прыбытку, а з кулацкіх гаспадарак у разьмеры акладу с/г падаткам у індывідуальным парадку, але ня ніжэй 150 руб. Растэрміноўка гэтай групе ўстанаўліваецца на мясцох, але ня вышэй 3-х месяцаў.

8. Сябры сям'і калгасьніка ўплачваюць паявыя ўзносы, выходзячы з атрыманай даходнасьці па праца-днях у калгасе, але ня ніжэй $^1/_4$ паю главы сям'і.

Прыклад: Калі сябр сям'і калгасьніка выпрацаваў у калгасе 175 працадзён і па размеркаваньні даходнасьці ў калгасе прыходзілась на 1 працадзён 80 кап., тады даходнасьць складаецца 175×80=140 руб., у гэтым выпадку пай устанаўліваецца па групе 30 у 15 руб.

9. Пры адсутнасьці данных аб даходнасьці калгаснай сям'і (новы калгас, альбо новы калгасьнік), тады пай для главы сям'і вылічваецца з даходнасьці, якую мела ўся калгасная сям'я, будучы аднаасобнай гаспадаркай з прымяненьнем разьмеру калгаснага паю адпаведнай групы.

Прыклад: Калгасная сям'я, даходнасьць якой у калгасе не вядома, а будучы ў індывідуальным сэктару мела даходнасьць у 300 руб. плаціць пай па групе калгаснага паю № 21—у 45 руб.

Для сяброў сямей у гэтым выпадку пай устанаўліваецца ў разьмеры 1/4 паю главы сям'і.

10. Да групы 19 калгаснага паю адносяцца батракі і беднякі-калгасьнікі, якія аслабанены былі ад с.-г. падатку па індывідуальнаму сэктару да ўступленьня ў калгас і прабылі ў калгасе ня больш 1-го году. Для ўсей астатняй часткі батрацтва і беднаты, якія знаходзяцца ў калгасе больш аднаго году, пай устанаўліваецца на агульных падставах, выходзячы з маючайся фактычнай даходнасьці.

11. Жыхарствуючыя ў сельскіх мясцовасьцях саматужнікі і рамесьнікі, не ўваходзячыя ў сыстэму прамысловай каапэрацыі (некаапэраваныя саматужнікі) уплачваюць пай, як асобы, паказаныя ў групах 12—18, па даходнасьці ад сельскай гаспадаркі.

Разьмер паявых узносаў для тых саматужнікаў і рамесьнікаў, якія не абкладваюцца с|г. падаткам, устанаўліваецца па суме дахода прынятай для абкладаньня іх падаходным падаткам.

### Ільготы па ўплаце паявых узносаў.

12. Ад уплаты паявога ўзноса вызваляюцца: чырвонаармейцы і чырвонафлётцы тэрміновай службы (ў тым ліку і асобы малодшага начскладу тэрміновай службы).

13. Паніжаны (ільготны) паявы ўзнос у разьмеры 8-мі руб. уплачваецца:

а) рабочымі і служачымі, атрымліваючымі месячную пэнсыю ня звыш 25 руб.

б) вучашчыміся, атрымліваючымі стыпэндыю ня звыш 25 руб. у месяц.

в) Інвалідамі труда і вайны (імпэрыялістычнай), атрымліваючымі пэнсыю ня звыш 25 руб. у месяц.

г) Пэнсыянэрамі-інвалідамі грамадзянскай вайны і персанальнымі пэнсыянэрамі, не маючымі другіх сталых даходаў, незалежна ад разьмеру пэнсіі.

д) Утрыманцы ўсіх памянёных ільготных груп уносяць пай у 8 руб.

е) Вучашчыяся, якія маюць права на стыпэндыю, але не атрымліваюць яе і састаяць на ўтрыманьні сваіх бацькоў, уносяць пай у разьмеры 1/4 паю асноўнага пайшчыка (па даведках).

Увага 1. Пры атрыманьні асобамі, паказанымі ў п. п. „б" і „в" п. 13 стыпэндыі, альбо пэнсыі больш 25 руб. у месяц, а таксама пры наяўнасьці ў іх заработка ў звыш стыпэндыі і пэнсыі, уплата паявога ўзносу вытвараецца гэтымі асобамі на агульных падставах, устаноўленых п. 1 гэтай інструкцыі, з уключэньнем стыпэндыі і пэнсыі ў даход, па якому вызначаецца разьмер паявога ўзносу.

2. Пры атрыманьні асобамі паказанымі ў п. „г" п. 13, звыш атрымліваемай пэнсыі сталага даходу, уплата паявога ўзноса вытвараецца гэтымі асобамі на агульных падставах, устаноўленых п. 1—інструкцыі з устанаўленьнем разьмеру пая, у залежнасьці ад разьмеру сталага даходу зьверх атрымліваемай пэнсіі.

### Парадак вызначэньня заработку і іншых даходаў для вызначэньня разьмераў паявога ўзносу.

14. Для главы сям'і членаў с/г калгасаў, прамкалгасаў—пай вызначаецца па атрыманай ім главой сям'і, даходнасьці па працаднёх, вызначанай у калгасе пры разьмеркаваньні даходу, з дабаўленьнем даходу ўсей неабагуленай часткі гаспадаркі, якая абкладаецца с|г падаткам і таксама даходаў усей гаспадаркі ад неземляробчых заработкаў уне калгасу. (Аб вызначэньні паю сябрам сям'і калгасьнікаў—глядзі п. 8).

Прыклад: Глава сям'і калгасьніка выпрацаваў у калгасе 385 працадзён, а пры разьмеркаваньні дахода ў калгасе як натуральнай, так і грашовай часткі прыходзілася на 1 працадзень 90 кап., такім чынам даход па калгасу—главы сям'і—будзе 385×90=346 р. 50 плюс даход ад неземляробчых заработкаў і неабагуленай часткі гаспадаркі (картка вучоту аб'ектаў абкладаньня гр. 83 у с|с)—130 р. разам 476—50 (346—50+130=476—50), тады разьмер пая вызначаецца група 22 у 65 руб.

15. Для астатніх асоб, якія займаюцца сельскай гаспадаркай—не калгасьнікаў—пай вызначаецца ад сумы даходу, вылічанага ў 1931 для абкладаньня с/г падаткам.

16. Для асоб, працуючых па найму і для каапэраваных саматужнікаў і рамесьнікаў, працуючых у агульных майстэрнях, пай вылічваецца з сярэдняга месячнага заработку, атрыманага імі на працягу кварталу папярэдняга ўступленьня ў каапэратыў, з пасьледуючай праверкай праз Каапбюро ў прадпрыемствах і ўстановах сярэдняга заработку па сканчэньні кожнага кварталу.

17. Для астатніх саматужнікаў і рамесьнікаў (каапэраваных і некаапэраваных) і для ўсіх асоб слабодных прафэсій—выходзячы з сумы даходаў 1931 г., вызначанага для абкладаньня іх падаходным падаткам.

18. Разьмер даходу сяброў калгасаў і промкалгасаў высьвятляецца на падставе зьвестак, складаемых асобай камісіяй у складзе прадстаўнікоў сельпо, сельсавету і праўленьня калгасу.

Разьмер заработку пэнсыі і стыпэндыі ўстанаўліваецца разьліковымі кніжкамі, пасьведчаньнямі і іншымі дакумантамі.

Разьмер даходу ў астатніх выпадках вызначаецца па даных фінансавых органаў, сельсаветаў, альбо другіх адпаведных органаў.

19. У выпадку павялічэньня заработку ці даходу пайшчыка, апошні вытварае даплату паю ў адпаведнасьці з існуючымі нормамі і тэрмінамі.

Пры зьмяншэньні заработку ці другіх даходаў пайшчыка, адпаведна зьмяншаецца ці спыняюцца прадстаячыя плацяжы па растэрмінаванай часткі паю, але ўнесеная ўжо сума паю не зварочваецца хаця-бы яна правышала стаўку, устаноўленую для новага паніжанага заработку пайшчыка.

### Парадак унясеньня паявых узносаў.

20. Запазычанасьць па стараму паю ўносіцца па ўстаноўленых раней тэрмінах, у выпадку-ж пратэрміноўкі пайшчык абавязан аднаразова пакрыць усю запазычанасьць. Новае папаўненьне паю ўносіцца згодна п. 1 гэтай інструкцыі.

21. Асобы, прызваныя ў рады РСЧА, маюць права перадаваць свой паявы ўзнос другой асобе—сябру сваей сям'і, падаўшы аб гэтым адпаведную заяву Праўленьню каапэратыва.

22. Уступныя ўзносы пайшчыка пры пераходзе іх у другое спажыварыства не пераводзяцца і ў другі раз з пайшчыка не ўзімаюцца.

Нам. Старшыні Прэзыдыуму
Праўленьня Белкаапсаюзу **Верба**.

# Эканамічны Савет БССР аб разгортваньні савецкага гандлю

## Пастановы Эканамічнага Савету БССР

27-га красавіка 1932 г. г. Менск

### Пра разгортваньне гандлёвай сеткі спажывецкай каапэрацыі

Эканамічны Савет адзначае, што ў выніку работы па ажыцьцяўленьні майскай адозвы СНК Саюзу ССР, ЦК УсеКП(б) і Цэнтрасаюзу „Пра спажывецкую каапэрацыю“ (З. З. СССР 1931 г. № 22, арт. 224) і адозвы СНК БССР і ЦК КП(б)Б „Пра спажывецкую каапэрацыю“ (З. З. БССР 1932 г. №-23, арт. 172) сетка раздробных магазынаў спажывецкай каапэрацыі ў гарадох павялічылася. У параўнаньні з сеткай, якая была на 1-ліпеня 1931, яна павялічылася на 32 проц. альбо на 226 адзінак.

Станоўчым момантам у гэтай рабоце зьяўляецца і тое, што пераважная колькасьць уноў адчыненых магазынаў—80,7 проц. прыпадае на харчавую групу (гародна-фруктовых—47,9 проц., малочных—5,1 проц., хлебных—13,5, бакалейных і гастранамічных—14,2, прамтаварных—19,3 проц.).

Ня гледзячы на пашырэньне гандлёвай сеткі, на адчыненьне спэцыялізаваных магазынаў, колькасьць гандлёвых пунктаў ўсё яшчэ не забясьпечвае шырокага разгортваньня савецкага гандлю і раёны, якія заселены рабочымі, слаба насычаны гандлёвымі пунктамі, а існуючыя пункты не адпавядаюць запатрабаваньням культурнага гандлю. У выніку апартуністычнай недаацэнкі шэрагам каапэрацыйных арганізацый значэньня разгортваньня савецкага гандлю, будаўніцтва савецкіх базараў праходзіць з вялікай зацяжкай. Плян адчыненьня савецкіх базараў у IV-м квартале ў значнай меры недавыканан; замест адчыненьня 27 базараў на 330 ларкоў, у тым ліку ў гарадох 21—на 266 ларкоў—усяго адчынена ў гарадох 9 базараў на 150 ларкоў.

Асобныя гарадзкія саветы—Менскі, Полацкі і Аршанскі не аказваюць амаль ніякага садзейнічаньня спажывецкай каапэрацыі ў разгортваньні сеткі крам і савецкіх базараў і марудзяць з адводам зямельных вучасткаў.

Бяручы пад увагу вышэйпаказанае, Эканамічны Савет БССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць плян павялічэньня ў 1932 годзе гандлёвай сеткі на 170 крам, 759 ларкоў і кіоскаў, 541 латкоў, 100 развозак, 150 дамавых крам.

Для магазынаў павінна быць пабудавана 70 памяшканьняў і 100 адноўлена за лік гандлёвай плошчы не скарыстанай для гэтай мэты.

2. Лічыць неабходным павялічэньне сеткі гандлёвых пунктаў у гарадох, асабліва дробнага гандлю і максымальнае набліжэньне гандлю да месца жыхарства і працы рабочага спажыўца з тым, каб ня менш 70 проц. пунктаў былі адчынены ў раёнах, якія заселены рабочымі.

**3. Прапанаваць НК Камунальнай Гаспадаркі і Белжылсаюзу, а таксама ўсім дзяржаўным і каапэрацыйным арганізацыям, якія праводзяць пасялковае і жыльлёвае будаўніцтва, у адпаведнасьці з пастановай СПА за 11-га верасьня 1929 году (Известия ЦИК № 215 за 1929 год)—прадугледзець у сваіх плянах—будаўніцтва гандлёвых памяшканьняў.**

**4. Абавязаць НК Камунальныя Гаспадаркі, Белжылсаюз, Дзяржгандаль і Белкаапсаюз на працягу дэкады ўстанавіць дакладны сьпіс жылых дамоў і пасёлкаў, якія запраектаваны да будаўніцтва, у якіх неабходна пабудаваць магазыны і аформіць будаўніцтва крам у гэтых дамох адпаведнымі дагаварамі в Белкаапсаюзам.**

**5. Прапанаваць усім гарадзкім саветам і РВК аказваць спажывецкай каапэрацыі максымальнае садзейнічаньне ў разгортваньні сеткі—прадстаўленьнем памяшканьняў; на працягу двух дэкад узяць на вучот усе памяшканьні, асабліва ў раёнах заселеных рабочымі, якія (памяшканьні) могуць быць скарыстаны для крам, а таксама тыя крамавыя памяшканьні, якія заняты не па простым прызначэньні. Усе адзначаныя памяшканьні павінны быць аслабанены і перазаны спажывецкай каапэрацыі і Дзяржгандлю для скарыстаньня пад ганлдёвыя пункты.**

6. Абавязаць Белкаапсаюз скончыць будаўніцтва базараў у адпаведнасьці з пастановай СНК БССР ад 4 студзеня гэтага году.

З агульнага ліку гандлёвых месц на савецкіх базарах (крам, ларкоў, столікаў), якія будуюцца Белкаапсаюзам і Дзяржгандлем, аднесьці ня менш 50 проц. для гандлю саўгасаў і калгасаў. Гарсаветы павінны таксама выдзяліць месцы для продажу з возу.

Гандлёвыя месцы здаюцца калгасам і саўгасам па дагаварох, аб чым Калгасцэнтр і саўгасныя трэсты павінны даць адпаведныя паказаньні калгасам і саўгасам.

7. Прапанаваць т. Міцькову на працягу двух дэкад арганізаваць узорны масавы выезд калгасаў і калгасьнікаў на базары ў Менск, Віцебск, Барысаў, Гомель і Слуцак і даць дырэктыву ўсім райкалгассаюзам аб растлумачэньні калгасьнікам значэньня арганізацыі савецкіх базараў і выезьдзе калгасаў і калгасьнікаў на гэтыя базары.

8. Абавязаць Белкаапсаюз і ўсе каапэрацыйныя і дзяржаўныя гандлёвыя арганізацыі ў найхучэйшы тэрмін дабіцца поўнай перабудовы работы магазынаў, шляхам укараненьня сапраўднага гаспадарсага разрахунку ў іх працу, палепшаньня ўнутранага распарадку і якасьці абслугоўваньня спажыўцоў, зьнішчэньня чаргі і палепшаньня санітарнага становішча і знадворнага выгляду магазынаў.

9. Даручыць т. Шастакову напісаць артыкул аб разгортваньні савецкага гандлю ў адпаведнасьці з пастановамі ЦК УсеКП(б) і Ураду БССР і зьмясьціць яго як у цэнтральнай, так і ў раённай прэсе.

Старшыня Эканамічнага
Савету БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнага Савету БССР **С. Кандыбовіч.**

# Парадак выдачы ўзнагароды гандлёвым работнікам за выяўленьне браку.

### Пастанова Аб'яднанага Прэзыдыуму Праўленьня БКС і ЦП Саюзу работнікаў каапэрацыі і Дзяржгандлю

**Аб увядзеньні заахвочваючай сыстэмы аплаты работнікаў крам за выяўленьне браку атрымоўваемых тавараў.**

З мэтай узмацненьня барацьбы за якасьць атрымоўваемай сыстэмай спажыўкаапэрацыі прадукцыі і падвышэньня зацікаўленасьці ў гэтай барацьбе работнікаў прылаўка, Прэзыдыум БКС і ЦПСаюзу пастанаўляюць:

Увесьці з 1-га красавіка 1932 г. у карысьць заг. магазынаў, складаў, аб'яднаньняў, прадаўцоў адлічэньні за выяўленьне браку, атрымоўваемых тавараў у наступных разьмерах:

1. Заг. складам, магазынам, аддзяленьнямі (той хто прымае тавар) за выяўленьне неадпаведнасьці асартымэнту тавараў асартымэнту рахунка-фактуры пастаўшчыка—атрымоўвае **1 проц. ад каштоўнасьці той часткі тавараў, якая парушае ўстаноўлены асартымэнт.**

2. За выяўленьне пры прыёмцы тавараў **недобраякаснага тавару**—загскладу, заг. магазыну (той хто прымае тавар) атрымоўвае:

а) Пры прыёмцы тавараў ад грузаадправіцеля ў чыгуначнай станцыі буйнымі партыямі—1 проц. ад сумы выбракаванага тавару.

б) Пры прыёмцы заг. магазыну тавару са склады 2 проц. ад сумы выбракаванага тавару.

в) У адносіне да таго тавару, які пры прыёмцы выбракаван і які ў выніку пераацэнкі пускаецца ў продаж як брак,—асоба, якая выявіла гэты брак атрымоўвае 1 проц. ад сумы выбракованага тавару.

г) Пры выяўленьні браку тавараў у час прадажы, прадавец, які выявіў гэты брак атрымоўвае ад сумы выбракованага тавару 3 проц.

3. Разьмер сумы браку, а таксама неадпаведнасьць асартымэнту устанаўлівацца на месцы праз складаньне акту ў 4-х паасобніках, згодна § 6 і 10 інструкцыі Цэнтрасаюзу, Наркамгандлю ВСНХ СССР ад 25-га кастрычніка 1930 г. № 1527. Акт аб браку, альбо аб неадпаведнасьці асартымэнту складае асоба, якая прыймае тавар—пры удзеле прадстаўніка грамадзкіх арганізацый (крамкамісіі, рэўкамісіі, прадст. групы садзейнічаньня РСІ).

4. Выдача проц. узнагароды прыстасоўваецца да выдачы зарплаты пры канчатковым разьліку за месяц, але-ж не раней 15 дзён пасьля прад'яўленьня праўленьнем каапэратыву прэтэнзіі грузаадправіцелю.

5. Выдача проц. узнагароды праводзіцца за рахунак сум, атрымоўваемых каапарганізацыямі ад грузаадправіцеляў за парушэньне асартымэнту (5 проц. кампэнсацыя каштоўнасьці тавараў, якая парушае асартымэнт і скідкі, атрымоўваемай з цаны ў адпаведнасьці з разьмерам браку, устаноўленага актам (§ 6 і 10 інструкцыі) і штрафу ў 2-х кратным разьмеры гэтай скідкі.

Старшыня Прэзыдыуму Праўленьня
БКС **Хаскін.**

Старшыня Прэзыдыуму ЦП Саюзаў
Работн. Каап. і Дзяржгандлю **Кацнэльсон.**

# Аб фондзе рэгуляваньня зваротных сродкаў спажыўкаапэрацыі

### Усім арганізацыям спажыўкаапэрацыі БССР

**(фінсэктар Белкаапсаюзу № 47|51 27|III-32 г.)**

У выкананьне пастановы Саўнаркому СССР № 164 ад 16|II-32 г. „Аб фондзе рэгуляваньня зваротных сродкаў спажыўкаапэрацыі", Белканторай Дзяржбанку спушчана 25|III г. г. усім сваім філіалам інструкцыя праўленьня банку і Цэнтрасаюзу аб прымяненьні азначанай пастановы СНК СССР. Каб гэта інструкцыя была больш зразумела і асвоена ўсімі нізавымі каапарганізацыямі Белкаапсаюз лічыць неабходным даць яе ў некалькі скарочаным відзе, выкладваючы толькі тыя моманты, якія павінны цікавіць нашу нізоўку, з уключэньнем тых дадатковых момантаў і растлумачэньняў Цэнтрасаюзу, якія былі паведамлены Белкаапсаюзу пасьля атрыманьня азначнай інструкцыі.

**1. Парадак стварэньня фонду і вучот укладаў.**

1. Фонд рэгуляваньня зваротных сродкаў спажывецкай каапэрацыі зьяўляецца адзіным цэнтралізаваным фондам, які знаходзіцца ў веданьні Прэзыдыуму Цэнтрасаюзу.

2. Сродкі фонду хаваюцца на особным цэнтральным рахунку Прэзыдмуму Цэнтрасаюзу ў Дзяржбанку. Для збору ўкладаў ў фонд рэгуляваньня ад каапарганізацый БССР, Цэнтрасаюзам адчыняюцца субрахункі ў Райбанках і ў ва Усебеларукай Канторы Дзяржбанку.

3. Фонд утвараецца з укладаў усіх арганізацый спажыўкаапэрацыі. Разьмер укладаў на першае паўгодзьдзе 1932 г. устаноўлен Цэнтрасаюзам у 15 проц. адлічэньняў ад плянавага прыросту прыбытку і паявых капіталаў, з пасьледуючым пераразьлікам, у адпаведнасьці з фактычнымі накапленьнямі каапарганізацыі. Прэзыдыум Белкаапсаюзу мае права дыфэрэнцыраваць разьмер укладаў па паасобных каапарганізацыях

сваёй сыстэмы, у межах агульнага заданьня атрыманага ад Цэнтрасаюзу.

4. Уклады ў фонд рэгуляваньня зьяўляюцца бястэрміновымі і беспроцантнымі. Зварот укладаў праводзіцца па спэцыяльных пастановах Прэзыдыуму Цэнтрасаюзу.

5. Усе каапарганізацыі, абслугоўваемыя непасрэдна Белкаапсаюзам, і яго аўтаномнымі сэкцыямі, уносяць прылічваючыйся іх уклад на субрахунак фонду рэгуляваньня Ц-зу ва Усебеларускай Канторы Дзяржбанку.

Сельпо, гарпо і рабкаапы, якія знаходзяцца на абслугоўваньні райспажыўсаюзу,—уносяць свае ўклады на субрахунак Ц-зу раённым аддзяленьні Банку. На гэты-ж субрахунак у Райбанку уносяць свае адлічэньні райсаюз і райзагкантора.

6. Райбанк пераводзіць па тэлеграфу 1-га, 11-га і 21-га чысла кожнага месяцу на субрахунак фонду рэгуляваньня на Усебеларускай Канторы Дзяржбанку ўсе без выключэньня ўклады, якія паступілі да яго за мінулую дэкаду, адначасова Райбанк высылае райсаюзу выпіску з субрахунку фонду рэгуляваньня.

7. Кожная каапарганізацыя, унесеныя ёю ўклады ў фонд рэгуляваньня, праводзіць па свайму балянсу і адбівае ў справаздачах ў адпаведнасьці са спэцыяльнай інструкцыяй па вучоту ўкладаў і ссуд з фонду рэгуляваньня, якая (інструкцыя) будзе паведамлена дадаткова.

8. Белкаапсаюз на працягу 5-ці дзён па атрыманьні пляна-заданьня ад Цэнтрасаюзу, разьмяркоўвае заданьне па арганізацыях сваёй сыстэмы, выпісаўшы на непасрэдна ім абслугоўваемыя каапарганізацыі, плацежныя распараджаньні, якія перадаюцца Белканторы Банку.

9. Атрыманыя ад БКС пляны-заданьні на імя Райсасюзаў, Белкантора высылае сваім філіалам.

Райсаюз абавязан у 3-х дзённы тэрмін пасьля атрыманьня пляна-заданьня Белкаапсаюзу прадставіць свайму Райбанку.

а) разьмеркаваньне заданьня па сельпо, гарпо рабкаапам, уключыўшы ў яе і частку, якая падае на гаспадарку самога райсаюзу;

б) плацежныя распараджэньні на тыя сельпо-гарпо, рабкаапы, якія маюць бягучыя рахункі ў Райбанку, прычым райсаюз гарантуе гэтыя распараджэньні;

в) неадклікаемыя плацежныя распараджэньні на тую частку заданьня БКС, якая па разьмеркаваньні самога Райсаюзу падае на яго ўласную гаспадарку і гаспадаркі тых сельпо, якія ня маюць бягучых рахункаў у Банку.

Калі ў паказаны тэрмін пералічаныя матар'ялы цалкам альбо часткова ня будуць прадстаўлены Райбанку, апошні па тэлеграфу паведамляе аб гэтым Белкаапсаюз, які мае права выпісаць на адпаведную суму плацежнае распараджэньне непасрэдна на разьліковы рахунак самога Райсаюзу.

10. Памяненыя плацежныя распараджэньні, выпісваемыя Белкаапсаюзам (альбо Райсаюзам для яго сыстэмы), зьяўляюцца бясспрэчнымі і падлягаюць аплаце ў наступным парадку.

а) Плацежныя распараджэньні выпісваюцца ў 3-х экзэмплярах, з якіх адзін высылаецца арганізацыі-плацельшчыку і два Райбанку, у якім гэта арганізацыя мае свой разьліковы альбо бягучы рахунак;

б) у выпадку, калі паказаны ў распараджэньні тэрмін плацеж ня будзе вытваран, Райбанк самастойна сьпісвае суму паказаную ў маючымся ў яго экзэмпляру распараджэньньні, з разьліковага альбо бягучага рахунку арганізацыі-плацельшчыка;

в) Паказанае ў папярэднім пункту самастойнае сьпісаньне, вытвараецца ў агульнай з рахункамі-фактурамі чарзе.

Пры аднačасовым паступленьні рахункаў фактур і плацежных распараджэньняў на ўзносы ў фонд рагуліраваньня, параважнасьць па чарзе сьпісаньня застаецца за фондам рэгуляваньня.

г) у выпадку, калі па разьлікам, альбо бягучым рахунку арганізацыі-плацельшчыка не акажацца неабходных сродкаў для поўнай аплаты распараджэньня, філіялы Дзяржбанку сьпісваюць маючуюся у дзень тэрміна суму і адносяць яе на субрахунак фонду рэгуляваньня, у далейшым да накапленьня па разьліковым (бягучым) рахунку поўнай сумы распараджэньня ўтвараюць толькі наступныя, прадугледжаныя законам, абавязковыя плацяжы з гэтага рахунку: на выдачу заработнай платы, сацстраху, за хлебнае віно, бюджэту (па прыбытковаму падатку і іншым абавязковым пляцяжам), па скарыстаным хуткапсуючымся прадуктам і па пратэрміновым пляцяжам самому Дзяржбанку. Калі пасьля 20-ці дзён па разьліковым (бягучым) рахунку плацельшчыка не накопіцца дастатковых сродкаў для поўнага пагашэньня распараджэньня, філіал банку сьпісвае накапіўшыяся сродкі на субрахунак фонду рэгуляваньня.

Аднačасова філіал Дзяржбанку пасылае арганізацыі, выпісаўшай плацежнае распараджэньне паведамленьне аб астачы непагашанай сумы.

Белкаапсаюз атрымаўшы паведамленьне сумы аб неплацяжу, можа ў адносіне да неакуратнага плацельшчыка спусьціць дадатковае плацежнае распараджэньне.

е) Калі плацежнае распараджэньне гарантыраванае райсаюзам, на працягу 20-ці дзеннага тэрміну цалкам ня будзе сельпо пагашана, філіал банку утварае сьпісаньне астаючыхся сум з разьліковага рахунку райсаюза, у паказаным вышэй парадку.

11. Пераразьлік узносаў у фонд рэгуляваньня, у адпаведнасьці з фактычнымі накапленьнямі (гл. п. 3) праводзіцца па балянсавым і справаздачным дадзеным два разы за год: папярэдні па становішчу на 1/VII і канчатковы па становішчу на 1/I (па зацверджаным гадавым справаздачам).

Зварот каапарганізацыі лішкова атрыманых сум альбо да атрыманьне недаўнесеных укладаў—утвараецца на працягу 3-х месяцаў, пасьля прадстаўленьня арганізацыяй адпаведных балянсавых і справаздачных дадзеных. У 1932 г. пераразьлік па становішчу на 1/VII не праводзіцца.

## II. Скарыстаньне сродкаў фонду; парадак выдачы і вучоту пазык

12. Сродкі фонду скарыстоўваюцца для папаўненьня зваротных сродкаў існуючых арганізацый і стварэньня зваротных сродкаў уноў узьнікаючых арганізацый спажывецкай каапэрацыі і выдаюцца ў форме зваротных пазык на тэрмін ня менш 5-ці месяцаў.

13. Каапаргнізацыя, якая мае патрэбу ў папаўненьні сваіх зваротных сродкаў, накіроўвае Белкаапсаюзу адпаведнае хадайніцтва, аднačасова з прадстаўленьнем квартальнага фінпляну.

Да гэтых матар'ялаў павінен быць прыкладзен апошні бягучы балянс і зацверджаныя Белкапсаюзам гадавыя кантрольныя лічбы. У самым хадайніцтве, акрамя патрабуемай агульнай сумы пазыкі, павінны быць абгрунтованы агульныя тэрміны атрымання паасобных пазык і па магчымасьці таксама тэрміны пагашэньня іх.

14. Хадайніцтва паасобных каапарганізацый Белкаапсаюзам правяраюцца і зводка іх перадаецца ў Цэнтрасаюз сумесна з квартальным фінплянам. Балкаапсаюз будзе разглядаць хадайніцтва толькі тых арганізацый, якія на працягу папярэдняга паўгодзьдзя акуратна выконвалі свае абавязацельствы па сумах і тэрмінах ўзносаў ў фонд рэгуляваньня.

15. Пазыкі каапарганізацыям будуць выдавацца ў наступным парадку:

а) Пасьля разгляду і зацьверджаньні хадайніцтва каапарганізацый, Белкаапсаюз дае Белканторы Дзяржбанку распараджэньне на выдачу пазыкі з дадаткам 2-х экз., запоўненых бляжкаў абавязацельстваў, падлягаючыя подпісі заёмшчыкам.

б) Філіал Банку, атрымаўшы распараджэньне Белканторы, адбірае ў заёмшчыка подпісі па абавязацельствах і суму пазыкі залічвае на яго разьліковы рахунак.

в) Райсаюзы могуць атрымоўваць пазыкі з фонду рэгуляваньня толькі для патрэб сваёй гаспадаркі. Выдача імі пазыкі сельпо забараняецца і магчыма толькі ў асоба выключных выпадках і з дазволу Белкаапсаюзу.

16. У выпадку калі каапарганізацыя пратэрміное плацяжы па сваіх абавязацельствах, Райбанк самастойна сьпісвае, у пагашэньне абавязацельства, маючыяся на разьліковым (бягучым) рахунку заёмшчыка сумы, застаўшыяся ў дзень тэрмінаплацяжа пасьля ўтварэньня абавязковых, устаноўленых законам, сьпісаньняў (Райгарфа, Сацстраху па пратэрмінованых плацяжох Дзяржбанку і па рахунках-фактурах за хлебнае віно).

Маючыяся, у дзень тэрміну-плацяжу па абавязацельству рахункі-фактуры як акцэптаваньня, так і падлягаючыя аўтаматычнаму сьпісаньню, а таксама іншыя плацежныя даручэньні неакуратнага заёмшчыка, аплачваюцца Дзяржбанкам з сум, застаючыхся на разьліковым рахунку пасьля пагашэньня пазыкі.

Калі і ў гэтым выпадку, на разьліковым рахунку заёмшчыка не акажацца дастатковых сум для поўнага пагашэньня абавязацельства, філіал Банку тэлеграфна паведамляе Белкаапсаюз аб пратэрміноўцы і аб астачы непагашанай пазыкі; на працягу наступных 30 дзён Банк спыняе ўсялякія выдачы з разьліковага (бягучага) рахунку заёмшчыка, за выключэньнем наступных абавязковых сьпісаньняў па плацяжох: Райгорфо, Сацстрах, зарплата, за хлебнае віно, па пратэрмінованым пазыкам Дзяржбанку і па скарыстанным хуткапсуючымся таварам, накапляючы ў гэты час па разьліковым (бягучым) рахунку заёмшчыка сумы для поўнага пагашэньня абавязацельства.

Пасьля 30-ці дзённага тэрміну, філіал Банку сьпісвае накапіўшыяся сумы з разьліковага (бягучага) рахунку заёмшчыка, авізуе на гэтыя сумы спэцыяльны рах. БКС па мясцоваму фонду рэгуліраваньня ў Белканторы Дзяржбанку і адначасова зварочвае Белкаапсаюзу непагашанае абавязацельства з адзнакамі на ім аб паступіўшай частцы плацяжу.

17. Белкаапсаюз, па атрыманьні паведамленьня філіалу Банку аб пратэрміноўцы пазыкі, можа прыняць наступныя меры: адтэрмінаваць плацёж, разьмеркаваць яго па новым тэрмінам альбо спагнаць яго прымусовым парадкам.

18. Пазыкі выдаваемыя Белкаапсаюзам а фонду рэгуляваньня зьяўляюцца бяспрацантнамі.

19. Выдача сум з фонду рэгуляваньня ўтвараецца Дзяржбанкам без спагнаньня з каапарганізацый камісіі і выдаткаў.

20. Адзначаная інструкцыя па фонду рэгуляваньня ўводзіцца ў дзейнасьць з моманту атрыманьня яе на мясцох.

У сувязі з тым, што пастанова СНК СССР аб фонду рэгуляваньня зварот[illegible] сродкаў спажыўкаапэрацыі мае для нашай сыстэмы рашаючае значэньне ва ўсіх пытаньнях правільнай арганізацыі яе фінансавай гаспадаркі і забесьпячэньня таваразвароту, прапануем строга кіравацца азначанай інструцыяй і забясьпечыць сваечасовасьць узносаў у фонд, згодна нашых заданьняў.

Папярэджваем, што Белкаапсаюз катэгарычна будзе адмаўляцца ў выдачы пазык з фонду рэгуляваньня тым каапарганізацыям, якія неакуратна будуць выконваць яго заданьні па ўзносах ў фонд рэгуляваньня.

Нам. Старшыні Прэзыдыуму Праўленьня БКС **Шэйнін.**

Эканаміст **Кабакоў.**

## П А П Р А У К А

У Бюлетэні Белкаапсаюзу № 5 ад 31-га сакавіка ў артыкуле аб стаўках новага дыфпаю, разьмер паю для рабочых, служачых і каапэраваных саматужнікаў з зарплатай ад 121 р. да 150 руб. паказаны ў 79 руб. **Трэба чытаць—78 руб.**

**Выдавец БелТА** **Рэдактар С. Андросенка.**

Друкарня Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Упаўнав. Галоўлітбел № 312. зак. № 422 Тыраж 5000